Выхваляліся **трытоны**:
— Мы па дну ракі пайдзём,
На сабе вады **тры тоны**
Нават хоць бы што нясём.

Узляцелі ў неба самалёты —
Баявы паветраны **дазор**.
У кабінах мужныя пілоты
Неба праслухоўваюць **да зор**.

Чалавека ні за што зняважыць —
Гэта не якісьці там **агрэх**.
Не памылка нават (я хачу заўважыць)
Тут, **а грэх**.

Дзень нараджэння сёння твой,
І ты — нібы які герой:
Цябе ўсе хваляць, і **ты рад**.
Але не стань жа ганарлівым
Ад **тырад**.

— Добры дзень! —
Сказала **Міла**
І ўсміхнулася нам **міла**.

Я пачуццё сваёй **тугі**
У вузел завяжу **тугі**.

Сябры! У гэтым **годзе**
Сумаваць нам **годзе**!

Мышкі маюць дзіўны **нораў**:
Нарабілі сотні **нораў**.

Чмель, напэўна, **соты**
Нёс нектар у **соты**.



Ты рашы **задачу**:
Колькі можна грошай
Нам узяць **за дачу**.

Каля банка **варта**,
Каб стаяла **варта**.

## 53. МНАГАЗНАЧНЫЯ СЛОВЫ

*У беларускай мове ёсць нямала слоў, якія маюць некалькі або многа значэнняў. Вось, напрыклад, як слова* ***запраўляць*** *у гэтым вершы:*

Пад хусцінку для красы
Таня **запраўляе** валасы.

Малайчына наш Сярожа —
**Запраўляе** сам ён ложак.

Мама суп мне налівае
І смятанай **запраўляе**.

Ураджай каб быў, вясной,
Каб ён рос як трэба,
**Запраўляе** тата мой
Угнаенні добра ў глебу.

На запраўчнай «Масквіч»
**Запраўляе** Клім Фаміч.

Ганарыцца Каця працай
На камвольным камбінаце:
**Запраўляе** там бабіны
У прадзільныя машыны.

**Запраўляе** ў клубе Міла —
Драмгурток яна стварыла.

## 54. АГУЛЬНЫ АДКАЗ

*Каб запоўніць пустыя клетачкі, трэба правільна назваць пералічаныя абазначэнні.*

1. КОЛАС
2. ВЫРАЗ
3. КРОК
4. ДОВАД



1. Значны па вазе.
2. Змястоўны, значны па зместу.
3. Цяжкі, пазбаўлены лёгкасці.
4. Пераканаўчы.

(ікжав)

1. Гандаль прадуктамі і іншымі таварамі.
2. Спецыяльнае месца для гандлю.
3. Бязладная гаворка, крык, тлум.



(разаб)

## 55. ПАДУМАЙ

*Якія значэнні маюць словы* грамата, задаць, іскра, круты? *Можаш карыстацца тлумачальным слоўнікам.*

## 56. АНТОНІМЫ (словы з процілеглымі значэннямі)

*З прыведзеных слоў складзі адпаведныя пары.*

**Прыклад:** ДОБРЫ — ДРЭННЫ
МАЛЫ — ВЯЛІКІ

МЯККІ
САЛОДКІ
СУМНЫ
ГАЛОДНЫ





ЗДАРОВЫ
ПРАВІЛЬНЫ
ВЯСЁЛЫ
СЫТЫ
ДОЎГІ
ГАРАЧЫ
ШЫРОКІ
ПРОСТЫ
ДУЖЫ
ТОЎСТЫ

ТОНКІ
КАРОТКІ
ВУЗКІ
ГОРКІ
СКЛАДАНЫ
СЛАБЫ
ПАМЫЛКОВЫ
ЦВЁРДЫ
ХВОРЫ
ХАЛОДНЫ

(ыжуд — ыбалс, ылёсяв — ынмус, ыворадз — ыровх, ытыс — ындолаг, ытсўот — ікнот, ытсорп — ынадалкс, ычараг — ындолах, ыньліварп — ывоклымап, іккям — ыдрёвц, ікорыш — ікзув, ігўод — ікторак, ікдолас — ікрог)

## 57. АДГАДАЙ ЗАГАДКІ НА АНТОНІМЫ

Вабіць нас яно заўжды
Ягадамі, жытам,
Звонкай свежасцю вады,
Сонечным блакітам.

А яна палоніць сном
Луг, і сад, і поле,
Пакрывае рэчку льдом,
Снегам — наваколле.
(ател — аміз)



Тут — Радзіма, кут адзіны,
Самы родны на ўвесь свет,
Тут любімыя мясціны,
Дзе з'явіўся ты на свет.

Там — няродная краіна,
Незнаёмы, новы край.
Ну, а лёс туды закіне —
Нібы родны, паважай.
(анычшўакьцаб — аныжуч)

Напаткаць яно павінна
Тых, хто ўчыніць зло, правіннасць.

А яна вось — дар ці плата
Тым, працуе хто заўзята.
(еннаракап — адораганзу)

Усё жыццё адна другому
Яны — загадкамі заўжды.
На ёй жыць хораша жывому,
Ёсць нівы, рэкі, гарады.

А ў ім аблокі, сонца, зоры
І безліч розных таямніц.
Яно — блакітны гмах высокі,
Яна — прад намі век ляжыць.
(ялмяз — абен)



Брат, празрысты, светлы,
Працаваць нас кліча.
Запрашае ветла
Спаць сястра-чарніца.

Ім абоім, верце,
(Не па іхняй волі)
Разам не сустрэцца,
Не пабыць ніколі.
(ьнезд — чон)



Без яго жыццё — самота.
Ён — надзея, і пяшчота,
І памочнік ён, і брат,
Хай у нас іх будзе шмат.

А ягоны антыпод
Прынясе нам шмат нягод.
Будзем моцна сябраваць,
Каб яго не сустракаць.
(рабяс — гаров)

Мы — спартыўныя браты,
Ведаць нас павінен ты.
Часта хлопчыкаў, дзяўчатак
Клічам мы на стадыён.
Я — спаборніцтва пачатак,
Завяршэнне — ён.
(тратс — шініф)

Ён патрэбен нам усім
Дзеля працы, шчасця.
Мы заўсёды разам з ім
Будзем усміхацца.

А яна — бяда і зло,
Мора слёз і болю,
І яе — каб не было
Анідзе, ніколі!
(рім — анйав)

Я настрой усім ствараю
І здароўе паляпшаю.
Радасць, весялосць, удачу
Шчыра, гучна абазначу.



А вось ён бывае ахвочы
Там, дзе боль, бяда і скруха.
Ён слязамі поўніць вочы,
І яго балюча слухаць.
(хемс — чалп)

Абедзве часта нас даймаюць,
Шукаць ратунку прымушаюць.
Адна з іх летам узнікае,
Штораз купацца заклікае.
Калі яна мацнее ўдзень,
Імкнемся мы схавацца ў цень.



Другая — холадам сцюдзёным
Зімой завітвае да нас.
Пад стрэхі вераб'ёў загоніць,
Дыханнем ледзяным абдаць.
(акёпс — ажюцс)



Яна — маўклівая, нямая,
Безабаронная такая.
Калі патрэбна адпачыць,
Яна павінна побач быць.



А ён як з'явіцца, цягучы,
Нястрымны, гулкі ці пявучы,
То, безгалосая, якраз
Яна пакіне ўмомант нас.
(янышіц — муш)

# 58. АМОНІМЫ (словы, якія гучаць і пішуцца аднолькава, але маюць розныя значэнні)

*Каб запоўніць пустыя клетачкі, патрэбна правільна назваць растлумачаныя рэчы.*









I. Сасновы лес
II. Хімічны элемент
III.Стальны свердзел
(роб)



5 10,811
2,01
0,078
B
Бор



I. Арганізацыя, установа
II. Маса дыму, пылу, пары
III.Частка бядра
(булк)



I. Сноп саломы
II. Мяшок; старая мера сыпкіх цел
III. Частка рабалоўнай снасці
(ьлук)



**Адгадай загадкі на амонімы**



Адно жывёле будзе ежай
Зімой на ферме ці ў хляве.

Другая ў горадзе замежным
Спакойнай рэчкаю плыве.
анес .I — аварт яанашусыв
анеС .II — акар

Адна з іх — гарадская,
Вясковая — другая.
Чужыя — хоць блізняты,
Ды ў тым не вінаваты.
Нас музыкай на сцэне
Адна з іх захапляе,
І ад мякіны зерне
Другая ачышчае.
афра .I — тнемуртсні ынчызум
арфа .II — анышам яачрадапсагаксьлес



Жыве ў субтропіках
І тропіках здаўна.
І вельмі небяспечная яна,
Бо ядавітаю з'яўляецца,
Змяёю называецца.

Нам гэта ж слова падказала
Адзін з вядомых мінералаў.
дінса .І — яямз
дінса .ІІ — ларенім ытсіалс

Гавару я адмыслова,
У паэзіі жыву.
Нагадаю вам Крылова
І Кандрата Крапіву.

Апрануць магу таксама,
Прыгажосцю адарыць,
Бо тканінай баваўнянай
Я з'яўляюся, сябры.
акйаб .І — ровт ынрутаратіл
акйаб .ІІ — анінакт яаккям

Першы ў спорце — задзірака
І кулачны забіяка.
Рынг — ягоны родны бацька,
Любіць мужных ён і хвацкіх.

А другі для прыгажосці
Завітаць гатоў у госці.
Частаваць няма прычыны,
Бо ён стрыжка для мужчыны.

Трэці ёсць названы «брат»,
Ды яму ніхто не рад.





Хворых ён людзей хавае,
Медыцынскі нораў мае.
скоб .І — утропс дів
скоб .ІІ — аксочырп
скоб .ІІІ — еннакшямап еанавялазі



Лодкам, яхтам, караблям
Я прытулак добры дам.
А яшчэ — раскіну ўсцяж
На ўзбярэжжы слаўны пляж.

А вось цёзка ўжо мая —
Мору нават не радня.
І ў яе такіх турбот —
У адрозненне — няма.
Ды канат, вяроўку, дрот
Скруціць хораша яна.
атхуб .І — ўілаз іксрам
атхуб .ІІ — катуркс ікіляв

Адзін паспеў на поўдні,
Янтарным сокам поўны.
Набіта ў ім бітком
За сотню больш браткоў.
Другі наш добры госць
Падорыць прыгажосць,
Кулоны і пярсцёнкі
Аздобіць з густам тонкім.
танарг .І — долп
танарг .ІІ — ьнемак ынўотшак



Без яго няма прычыны
Свет разумным называць.
Ён пачаўся ад Скарыны
З ім нам вечна сябраваць.

А «блізнец» ягоны просты.
Немагчыма зразумець,
Як такога змог кій тоўсты
«Сваяка» ў жыцці займець?
курд .І — тезаг, ўасіпосач, гінк барыв
курд .ІІ — йік, аклап

Першы возіць сена, дровы,
Цягне плуг, бо ён здаровы.
І на ім алюрам, рыссю
Вельмі хораша прамчышся.
А другі — зусім малеча,
Скача ў травах і стракоча,
Днём яго або пад вечар
Можна ўбачыць, як захочаш.
кінок .І — ьнок ікіляввен
кінок .ІІ — еамокясан

Я — з музычнаю натурай,
Я — і знак, і тэкст, і гук.
І заўжды клавіятурай
Вам валодаць памагу.

У мяне ёсць (вось загадка!)
Афіцыйная сястра,
Па натуры — дыпламатка,
Бо яе прымае ўрад.
атон .І — ыцызум у
атон .ІІ — торавз ынчытамалпыд

Нараджаецца ў вадзе,
Нам патрэбная ў ядзе.
Ёсць і ў музыцы таксама —
Пяты гук музычнай гамы.
Іх у меру вы ўжывайце,



Імі вы не злоўжывайце,
Бо, сябры мае, інакш
За настрой баюся ваш.

А яшчэ ёсць рэч адна,
У грашах была яна.
Бачыў я яе ў Перу,
Верце, праўду гавару.
ьлос .І — ьлос яаволатс
ьлос .ІІ — атон
ьлос .ІІІ — акнізда яавошарг



Слынная дама
У спорце — адна,
Ходзіць па клетках
Заўсёды яна.
Лютай калісьці
Другая была.
З бітвы ў музеі
Даўно перайшла.
акшаш .І — іньлуг ялд кожурк
акшаш .ІІ — яорбз яандолах

## 59. БЕЛАРУСКА-РУСКІЯ АМОНІМЫ

*Табе, вядома, ужо сустракаліся словы, якія ў беларускай і рускай мовах, маючы рознае значэнне, гучаць аднолькава.* Напрыклад: **лік** і **лик**, **кроў** і **кров**, **сціркa** і **стирка**.

*Вельмі важна не блытаць значэнні міжмоўных амонімаў, каб не даходзіць да памылак, абсурду.*

*Разгадай некалькі загадак на беларуска-рускія амонімы. Кожная з іх складаецца з дзвюх частак, першая з якіх напісана на беларускай мове, а другая — на рускай.*

Напрыклад:
Ён прымае збожжа, лубін,
Цукар, крупы і муку...

А меня найдёте в шубе,
В холода согреть смогу.
Адгадкі: мех (гаспадарчая рэч) і мех (футра).

У кватэры я ўпрыгожу
І падлогу і сцяну.

На него в квартире можешь
Ты присесть и отдохнуть.
(навид — навыд)

Расліна ён, цвіце прыгожа
У палісадніках, садах.

Он птица. И весною можно
Услышать ток его в лесах.
(часок — часак)

На вярбе, на лазовым кусце
Ён, срабрысты, вясною цвіце.

В море я, друзья, живу,
Ценным мехом век слыву.
(киток — кіцок)

У сям'і — дзяцей сямёра:
Тры сыны, дачок — чацвёра.
Імя мае кожны з нас,
Я — малодшая якраз.

А вот я в семье такой
Называюсь не сестрой.
Семь детей, и все мои —
Мама этой я семьи.
(яледен — ялездян)

Эпідэміяй лютуе.
Для жывёлы — вораг ён.



И в грамматике живу я
Для склонения имён.
(жедап — жездап)

Зараз часткаю кватэры
Называюся я, дружа.

Тишину люблю теперь я
И для отдыха всем нужен.
(йокоп — йокап)

Мы яго на ўроках мовы
Як часціну вывучаем.

А вот им, скажу вам к слову,
Речь свою мы украшаем.
(еьволсирп — еўолсырп)

Я на вуліцы і ў хаце,
Трэба вам са мной змагацца.
Варта толькі ўзняцца ветру —
Я змяшаюся з паветрам.
А со мной вы хороши,
Я — горение души.
И со мной любое дело
Начинаете вы смело.
(лып — лып)

Я — прадмет ці выраб, з'ява,
Шмат што ў свеце называю.
Назва гэта не канкрэтна.

Помогают жить мне: рот,
И язык, и губы.
Говоришь ты что-то — вот
Это я и буду.
(ьчер — чэр)

Ён — з граматыкі, пры гэтым
Усяго іх — роўна шэсць.

А по мне промчишься с ветром,
Если снег и санки есть.
(нолкс — нолкс)

Бацька — год, зіма — матуля,
На канікулы вяду я,
Пачынаю каляндар.

Я — сгустившийся навар,
Кушай летом и зимой,
Рыбный я или мясной.
(ьнедутс — ьнездутс)

У пакоі ўверсе я,
Люстрамі расквечана.

В русском языке, друзья,
Стала я наречием.
(ьлотс — ьлотс)

## 60. З АДНАГО КАРАНЯ

*Гэтыя роднасныя словы ўтвораны ад аднаго кораня* «БРАТ»:

БРАТАННЕ
БРАТАЦЦА
БРАТВА
БРАТНІ
БРАТЭРСКІ

*Утвары сам аднакарэнныя словы ад каранёў* ЗУБ, НІЗ, ЧАС.



(ынбуз, актсычабуз, ытсабуз, лаксабуз, ацінбэчялабуз, ыбуззяб; ынажіназ, ьцізіназ, ывазін, анізін, ікзін, ынажінап, ьцізінап; ывасач, масач, анісач, ывосач, сіпосач, ынсіпосач)

## 61. КРАСВОРД «РОБАТ»

Па вертыкалі:

1. Школьнае памяшканне.
2. Лепшая пара года для школьнікаў.
3. Балотная птушка.
4. Квіток на праезд у транспарце.
6. Мяч, забіты ў вароты.
9. Салодкі кандытарскі выраб.
11. Сінонім да слова *кветка*.
12. Жаночае імя.
14. Засеянае поле.
15. Загарадны дом.

Па гарызанталі:

3. Той, хто лятаў у космас.
5. Майстар паветранага бою.
7. Дзікі бык.
8. Краіна ў Азіі.
10. Музычны інструмент з электрычным узмацненнем гуку.
13. Самая вялікая змяя сямейства ўдававых.



(Па вертыкалі: ачад — 15, авін — 14, арамаТ — 12, аксарк — 11, авлах — 9, лог — 6, нолат — 4, кілук — 3, ател — 2, салк — 1).

(Па гарызанталі: аднокана — 13, аратігарткелэ — 10, натсхазаК — 8, кя — 7, са — 5, тўанамсак — 3)





## 62.

Які горад лятае?

(лорА)

Якую плітку можна есці?

(юундалакаш)

Што без слёз плача?

(акпыркс)

Што без вады плавае?

(акалбов)

Што ляціць без крылаў?

(рецев)

Што гаворыць на ўсіх мовах?

(кызя)







# Сказ



## 1. ПРАДОЎЖЫЦЬ СКАЗ

*Пастарайцеся пабудаваць сказ як мага даўжэйшым. Кожны з удзельнікаў гульні дадае да сказа хоць адно слова. Пераможцам стане той, хто прыдумае самы доўгі сказ.*

Прыклад:
Ён чытае.
Ён чытае кнігу.
Ён чытае цікавую кнігу.
Ён чытае цікавую кнігу ўслых.
Ён чытае цікавую кнігу ўслых, а яна слухае.
Ён чытае цікавую кнігу ўслых, а яна слухае ўважліва.
Ён чытае цікавую кнігу ўслых, а яна слухае ўважліва і запамінае.

*Прадоўжыце гэты сказ, а затым наступны:* **Птушкі прыляцелі.**

## 2. СКЛАДЗІ СА СЛОЎ СКАЗЫ

а) Верш, Даша, вучыць.
б) Павіншавала, з, нараджэння, Каця маму, днём.
в) Маме, грады, дапамог, Слава, палоць.
г) Сама, ложак, Поля, заправіла.
д) Кіно, мама, дзеці, пайшлі, і, тата, ў.

## 3. СКЛАДЗІЦЕ СКАЗЫ, ВЫКІНУЎШЫ З КОЖНАГА РАДКА ЛІШНЯЕ СЛОВА

Клас, дошка, парты, глобус, дождж, кнігі.
Жыта, вёска, авёс, поле, ячмень, карась.



Сасна, лес, бяроза, асіна, баравікі, лісічкі, сыр, падасінавікі.



## 4. ДАПОЎНІ СКАЗЫ СЛОВАМІ З ПРАВАГА СЛУПКА

| | |
|---|---|
| Як ... наплакаў. | праўда |
| Адзін у ... не воін. | свет |
| ... вочы коле. | кот |
| На навуцы ... стаіць. | полі |

*Што абазначаюць гэтыя прыказкі?*

## 5. ХОД КАНЁМ



*Ты, канечне, ведаеш, што конь ходзіць літарай «Г». У такім выпадку, ходзячы канём, прачытай на шахматнай дошцы вядомую беларускую прыказку.*

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Р | | | | | |
| А | | | | К | | | |
| | У | І | | | | Р | |
| | | | К | | М | | |
| | | | | | Я | | А |
| В | | | | І | | | |
| | | А | У | | | І, | |
| | С | | | | | | |



(іар у кя, іарк міавс У)

## 6. СКОРАГАВОРКА-ГАЛАВАЛОМКА

*Перад табой скорагаворка-галаваломка. Але напісана яна незвычайна. Адшукай ключ да правільнага напісання. Запішы і прачытай скорагаворку.*

КАРАЛ ІНАЛЯЛЬКУ ЮЛЮКЛА ПАТЛІ ВАКЛАЛА ЎЛЮ-ЛЮ
(.юлюл ў алалк авілтапалк юлЮ укьлял аніларaК)

## 7. Скорагаворкі

*Навучыся хутка і выразна чытаць наступныя скорагаворкі. Паспрабуй паспаборнічаць з сябрамі, у каго лепей атрымаецца.*



Праз барвовы бярозавы гай
Серабрысты грукоча ручай.

Грымнуў гром угары,
Хлынуў лівень на двары.

У Валеры, Славы і Андрэя
Спраў нямала ў аранжарэі.

Слаўка лоўка на лістку паперы
Простым алоўкам малюе галеры.

Калі з маленства пашчыруеш —
Характар добра загартуеш.

У лясным гушчары ля ракі
Збудавалі бабры церамкі.

Раніцою золкай цецярук з цяцёркай
Прывялі ў дзіцячы сад чатырох цецеранят.

Прыляцеў да сябра верабей,
Сябра ў верабейкі — салавей.



Сом прысніў жахлівы сон,
Як у сетку трапіў ён.

Забялела грэчка ў полі,
Загулі над грэчкай пчолы.

Вырасцілі Флор і Лора
Боб, фасолю памідоры.



Прыгожым стол у Палікарпа стаў,
Палікарп стол палакіраваў.

У гародчыку чаромха расцвіла,
Пчоламі чаромха загула.

Сарока вірліва стракоча,
Сказаць штосьці слушнае хоча.

Просіць Лорка Борку
Выгаварыць скорагаворку.

Тамара малюе кальмара,
А Фрося малюе ласося.

Над возерам вецер лятае,
На хвалях лілеі люляе.

Працаваць я вельмі рад,
Не ідзе адклад на лад.

Расцвілі ў бабулі Лёксы
Гладыёлусы і флёксы.

Прыехаў сябар Давыд
Да Эдуарда з Караганды.

Бандэроль брат Браніслаў
Барысу з Браслава прыслаў.

Крочыць водарным верасам
Шчодры, радасны верасень.

Па шумлівай, вірлівай шашы
Трыццаць тры самазвалы прайшлі.

У Варвары — акуляры,
Акуляры да твару Варвары.





Маланка пагрозна па хмарах скакала,
Хмары пілою крывой пілавала.

Сенам шапаткім у шалашы,
Мышка шустрая, начамі не шуршы.

Згатавала Саша кашу для Машы.
Маша Сашы ўдзячная, каша ў Сашы смачная.

Галаваломку разгадвае Ромка,
Толькі не простая галаваломка.

Летам Тамара гербарый сабрала.

Шуміць ля ракі чарот шапаткі.



Ехаў да сяброў Алег,
Вёз с сабою смеху мех.
У мяху смех рассмяяўся,
І ад смеху мех парваўся.

Выхвалялася варона:
— Як прыгожа ў кроне клёна!
Скора восень завітала,
Крона клёна голай стала.

Брыганціна, тры галеры,
Каравела — у Валеры.
Хлопчык вырасце дарослым,
Пойдзе ў плаванне матросам.

Палікарп, як скалалаз,
Ускараскаўся на вяз.
— Дрэвалаз, — сказаў Алесь, —
Спрытна ты на дрэва ўзлез.

## 8. ПРЫКАЗКІ З НАРОДНЫХ КАЗАК

*Успомні, з якіх беларускіх народных казак узяты гэтыя прыказкі.*

1. Жыццё пражыць — не поле перайсці.
2. Ад крадзенага сытым не будзеш.
3. І Кузьму бацькам назавеш.
4. У стральца дым густы, ды абед пусты.
5. Людзей слухай, а свой розум май.
6. У роднай старонцы і платы знаёмцы.
7. Свет вялік, можа, і праўда.

(акьцаб ыратс — 1, шеецысап ен аганездарк да — 2, ныс ынтакіладен — 3, кабыр і целартс — 4, йам музор йовс а, йахулс йездюл — 5, іківарач яынзелаж — 6, кінчазак і нап — 7).

## 9. КОЛЬКІ СКАЗАЎ У ГЭТЫМ ВЕРШЫ?

Я абед варыць вучуся,
Працаваць я не лянюся.
І калі гатуе мама,
Памагаю ёй таксама.



Мыю посуд і прыборы.
Рэжу сыр і памідоры.
За цыбулю не бяруся,
Бо расплакацца баюся.





## 10. КРЫЛАТЫЯ ВЫРАЗЫ

*Назаві ў вершах крылатыя выразы, што яны абазначаюць? Карыстайся тлумачальным слоўнікам.*



Са сном змагаўся я, як мог,
Але заснуў без задніх ног.

Калі не надзейны таварыш,
З ім кашы ніколі не зварыш.

Наматай сабе на вус:
Рупны, шчыры — беларус.

Заспявае — нельга слухаць,
Наступіў мядзведзь на вуха.

Калі ў доме спор ды лад,
То і кожны вельмі рад.

Маюць рацыю сябры:
Снег — да часу, да пары.

А Лявон наш прамаўчаў,
Як у рот вады набраў.

Раскрычаўся Мікалай,
Хоць ты вушы затыкай.

* * *

— Ну і Віця! — дзед бурчыць:
— Бач, на ім усё гарыць...
Я гляджу і ледзь не плачу,

Ды ніяк агню не ўбачу.
Віця ж — брат старэйшы мой.
Абалью яго вадой.

* * *

Мой дзед Антось кляпае косы
І кажа мне: «Касьба на носе».
А я гляджу на дзедаў нос —
Жартуе, мабыць, дзед Антось.

* * *

Дзед падняў у хаце крык,
Вы яшчэ не чулі? —
Востры, нібы нож, язык
У маёй бабулі.
Дзед злуе, а я цішком
Ля яго бядую:
Ой, паржэжа языком
Рот сабе бабуля.

* * *

— Разважае адмыслова,
Гаваркі — унучак Жэня.
І ні разу ён па слова
Бач, не лазіць у кішэню. —

Кажа гэтак наш дзядуля.
І за братам дзень сачу я.
Мне б даведацца: у Жэні
Колькі слоў ёсць у кішэні?





## 11. ПЫТАННІ ДЛЯ КЕМЛІВЫХ



*Адказы можна знайсці ў выдзеленых словах.*

1. Куды пайшоў **Алесь** на прагулку?
2. Што зламаў бык аб **парог**?
3. Хто напалохаў **каралеўну** ў лесе?
4. Што зварыла **Марыся** на абед?
5. Што любяць дзеці, калі заходзіць **сонца**?
6. Якая кветка расцвіла ў садзе пад **гамаком**?
7. Якую страву паставіў повар **насупраць** Дашы?
8. Хто высунуў галаву з **ракі**?
9. Што сталася з хлопчыкам, калі ён на **веласіпедзе** заехаў у возера?

(сел у — **1**, гор — 2, ўел — 3, сыр — 4, нос — 5, кам — 6, пус — 7, кар — 8, піса — 9)

## 12. КРОПКА



Лужок. Пагода. Касавіца.
Ідуць касец і маладзіца.
Пракосы. Сушка. Сена копка.
А пасля слоў і сказа —
Кропка.

*У канцы кожнага сказа пастаў кропку:*

У лесе паспелі суніцы Слава і Даша пайшлі ў кіно Першага верасня дзеці пойдуць у школу Сонца паволі выплывае з-за хмары Слаўка — працавіты хлопчык.



## 13. КОСКА

*Значэнне коскі вельмі вялікае. Яна дапамагае зразумець сэнс выказванняў, пералічыць рэчы або прадметы без блытаніны. Напэўна, ты ведаеш, што коска аднойчы вырашыла лёс чалавека, калі суддзя вынес яму прысуд:* «Пакараць нельга памілаваць».

*А цяпер прачытай гэты верш і правільна пастаў у ім дванаццаць косак.*

У мяне сяброў багата:
Слава Поля Даша Ната
Вераніка Глеб Валодзя
Каця Пецся Ніна Люся
А калі ты будзеш згодзен
І з табою падружуся.



## 14. ПЫТАЛЬНІК І КЛІЧНІК

*У канцы сказа можа ставіцца не толькі кропка, але і пытальнік ці клічнік. Пытальнік ставіцца тады, калі ў сказе аб нечым пытаюцца. А клічнік — калі гэты сказ чытаецца з павышанай інтанацыяй.*

*Прачытай вершы і правільна растаў знакі прыпынку ў канцы сказаў.*

Ах, які цудоўны коцік
Вымыў лапкі, носік, роцік,
Расчасаў чубок густы.
Коцік вымыты, а ты



— Што табе купіць, Паліна
Можа, ляльку? Піяніна
Можа, мячык? Посуд? Кніжку
Чабурашку? Зайку? Мішку
Ты чаму маўчыш, дачушка
Выбірай, мая пястушка.
Можа, слоніка? Лісічку
— Мама, я хачу сястрычку



# ТэксТ



## 1. ЯК ЗАВУЦЬ ЦУДОЎНУЮ ДЗЯЎЧЫНКУ?



Дзяўчынка ўдзень пайшла на луг і **сабрала** букецік рамонкаў, званочкаў і незабудак. Дома паставіла кветкі ў вазу. **Прыбрала** ў хаце, **прыгатавала** абед. **Прычакала**, калі маці прыйдзе з працы, **павіншавала** яе з днём нараджэння і **падаравала** свой букецік.

*Выдзеленыя словы падкажуць табе імя гэтай слаўнай дзяўчынкі.*

## 2. ЗАПАВЕТ БАГУШЭВІЧА

*Разгадаўшы гэту галаваломку, ты прачытаеш вядомае выказванне класіка беларускай літаратуры XIX стагоддзя Францішка Багушэвіча. Чытаць пачынай з літары, якая ў нашым алфавіце – пятнаццатая.*






(!ілрёмў ен бак, йаксуралеб йашан ывом ж ецйадікап еН)



## 3. ТВАЕ ЛЮБІМЫЯ БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ

1. Каго звалі Лыскам ў казцы «Сабака і воўк»: ваўка, сабаку ці барона?
2. Хто мераўся сілаю са старым канём у казцы «Стары конь»: воўк, леў ці мядзведзь?
3. Як звалі пана Глінскага-Папялінскага ў казцы «Кот Максім»: Гаўрылам, Сцяпанам ці Марцінам?
4. Якой клічкай назваўся кот у казцы «Як кот звяроў напалохаў»: Звяровіч, Тыгровіч ці Мурлыковіч?
5. Хто прагнаў з зайчыкавай хаткі казу-манюку ў аднайменнай казцы: воўк, певень, мядзведзь ці ліса?
6. Што еў касец пад кустом у казцы «Лёгкі хлеб»: сыр, яблык, хлеб ці грушу?
7. Што даў пан дзеду за малога сына ў казцы «Сынок з кулачок»: мяшок жыта, торбу гароху, дзесяць чырвонцаў, жменю золата ці маладога каня?
8. Замест чаго з'явіўся ў калысцы хлопчык у казцы «Піліпка-сынок»: гарбуза, палена сасны, палена бярозы ці палена алешыны?
9. Што прынесла бабе курачка Чубатка ў казцы «Лісіца-хітрыца»: яйка, бульбіну, каласок ці бабовае зерне?

10. Колькі розаг ўсыпалі пану-генералу ў казцы «Як мужык генерала правучыў»: дваццаць пяць, пяцьдзесят, сто ці сто пяцьдзесят?

11. Каго знайшоў бядняк каля рэчкі ў казцы «Разумная дачка»: вожыка, зайца, цялушку, бычка ці вавёрку?

12. На якім кані даскочыў Іван да царэўны ў казцы «Бацькаў дар»: на сівым, гнедым ці буланым?

13. Якой зброяй біўся з дзевяцігаловым змеем Цудам-Юдам удовін сын у аднайменнай казцы: мячом, булавой, лукам ці кап'ём?

14. Хто выскачыў з залатой табакеркі ў казцы «Ох і залатая табакерка»: маленькі сабачка, маленькі чалавечак ці маленькі коцік?

15. Што пасеяў на загончыку каля кустоў дзед у казцы «З рога ўсяго многа»: жыта, авёс, пшаніцу, проса ці кукурузу?

16. Які музычны інструмент зрабіў сабе музыка-чарадзей у аднайменнай казцы: дудачку, балалаечку, скрыпачку ці гуслікі?

## 4. ЦІ БЫВАЕ ТАК?

Залівістыя песні на сасне
Кукуе нам сарока па вясне.

* * *

На Поўдні, дзе вечныя льды,
Пінгвіны і куры ідуць да вады.



* * *

Люблю на санках летам
Прамчаць з гары крутой,








А ў садзе дыхаць кветам
Марознаю зімой.

* * *

У вадзе жывуць вавёркі,
У дупле жывуць бабры.
Совы – у возеры глыбокім,
А самы – у густым бары.
Пчолы спяць зіму ў бярлозе,
А мядзведзі – у вуллі.
Конь спявае на бярозе,
Вераб'я ў плуг запраглі.



* * *

На бярозе спеюць грушы,
А на дубе – вінаград.
Кот грыбы на лузе сушыць
І частуе мышанят.

* * *

Селі акуні на плот,
На рамонку кот сядзіць.
На вярбе спявае крот,
У шпакоўні вожык спіць.
Вусень воз цяжкі вязе,
Свінка скокнула ў гняздзечка.
Па галінцы конь паўзе,
Куранят вядзе авечка.



* * *

Вось ды дзіва, вось дык цуд –
Кракадзіла з'еў вярблюд.



* * *

Сена з лугу прыляцела
І ў хляве карову з'ела.

* * *

Вы не бачылі, не чулі?
Па сакрэту гавару:
Мышкі кошку зацягнулі
У глыбокую нару.

* * *

На рацэ маторнай,
Па глыбокай лодцы
Шчупакоў у мора
Вёз рыбак у бочцы.




# Часціны мовы

**1. ВЯЛІКАЯ І МАЛАЯ ЛІТАРЫ**



Хваліць мама **Ліпу**,
Бо яна ля хаты
Пасадзіла **ліпу**.

Ловіць рыбу брат мой **Карп** —
Будзе на абед у нас
Вельмі смачны **карп**.



Быў у цырку ўчора **Леў**,
Спадабаўся хлопцу
На арэне **леў**.

Мы зайздросцім **Глебу** —
Ён півоні сёння
Пасадзіў у **глебу**.



Пэўна, карту **свету**
Аніхто не знае
Лепш за нашу **Свету**.

Для сястрычкі **Полі**
Васількоў букецік
Я нарваў у **полі**.







Малайчына **Слава** —
Вучыцца выдатна,
Будзе ў яго **слава**.



У кватэры — **ціша**,
Новай, добрай кнігай
Захапіўся **Ціша**.

Праца, клопат — **веру**,
Анідзе, ніколі
Не збянтэжаць **Веру**.



У Яніны ў жніўні,
А ў сяброўкі **Маі**
Імяніны ў **маі**.



Аграном — **Любоў**,
Памагла дзяўчыне
Да зямлі **любоў**.



Любіць спорт **Надзея**,
Чэмпіёнкай стаць —
У яе **надзея**.



На футболцы
У Марата —
Нумар пяты.
Ну, а ў **Сёмы** —
Нумар **сёмы.**



Для сястры **Галінкі**
Адламаў я ў садзе
Бэзу тры **галінкі.**

Адкажы, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы?

## 2. ПРОЗВІШЧЫ АД ПРАФЕСІЙ

*Пазнач прозвішчы, якія ўтвораны ад назваў прафесій.*

- ◯ Лабанаў
- ◯ Петракоў
- ◯ Кавалёў
- ◯ Пушкароў
- ◯ Леснікоў
- ◯ Пісараў
- ◯ Данілаў
- ◯ Пастухоў
- ◯ Сталяроў
- ◯ Новікаў
- ◯ Токараў
- ◯ Краўчанка
- ◯ Агароднікаў
- ◯ Ціхановіч
- ◯ Мулярчык
- ◯ Панамароў
- ◯ Баравік
- ◯ Ганчарэнка
- ◯ Субоцін
- ◯ Несцяровіч



## 3. СЛОВЫ Ў НАЗВАХ І Ў ІМЁНАХ



*Утвары новыя словы з літар дадзеных слоў.*

- У назвах кветак:
**Васілёк. Ландыш. Мімоза.**





Прыклад: Віла, вёска, ас, сіла, квас. Лад, шыла, шына. Мім, міма, зіма.

- У імёнах людзей:
**Галіна. Андрэй. Слава. Алёна.**
- У назвах дрэў:
**Ліпа. Каштан. Таполя.**
- У назвах гарадоў:
**Орша. Барысаў. Гродна.**
- У назвах птушак:
**Сава. Ластаўка. Бусел.**







- У назвах краін:
  **Куба. Малдова. Марока.**
- У назвах прафесій:
  **Повар. Інжынер. Касманаўт.**
- У назвах жывёл:
  **Слон. Авечка. Барсук.**

## 4. З МНОГІХ — АДНУ

*Выбіраючы з кожнага слова адну літару (з першага — першую, з другога — другую, з трэцяга — трэцюю, з чацвёртага — чацвёртую, з пятага — пятую), утвары новае слова, якое назаве мудрага сябра для ўсіх людзей.*

КОЛАС
АНАНАС
СЛІВА
КРЫГА
АСІНА (агінк)

## 5. ЧАСЦІНЫ МОВЫ

*Адгадай загадкі і выпішы асобна назоўнікі, дзеясловы, прыметнікі, прыслоўі, лічэбнікі, займеннікі, прыназоўнікі і злучнікі.*

Сінявокі, слаўны, чысты,
Галавасты, залацісты.
Дасць абноў ён людзям шмат,
Будзе кожны вельмі рад.
(нёл)







Летам я — рагатая,
Восенню — хвастатая,
Хоць і горкая зусім,
Ды патрэбная ўсім.
(ялубыц)

Чатыры асілкі, чатыры браты.
І кожны аднолькава дуж.
Побач заўсёды яны і прытым
Носяць адзін капялюш.
(лотс)



У бацькі дванаццаць
Малойцаў-сыноў,
Адвечных руплівцаў
І шчырых сяброў.
(ыцясем і дог)

## 6. АДГАДАЙ ЗАГАДКІ І НАЗАВІ ПРЫМЕТНІКІ, ЯКІЯ ПАДКАЗАЛІ ТАБЕ АДГАДКІ

Пад сасной шатрыстай
У загадкавым бары
Церам **залацісты**
Збудавалі жыхары.
(кіншарум)



Выраслі на градцы
**Сакаўныя** братцы.
**Доўгія, шурпатыя,**
Вітамінаў шмат ў іх.
(ікруга)



Хоць **вялікі,** ды **пусты,**
Мае голас ён густы.
Да таго ж — артыст **вядомы,**
Выбівае дроб без стомы.
(небуб)

**Родная, матчына.**
Што ні вазьмі —
Усё называе нам,
Робіць людзьмі.
(авом)





## 7. ПАДБЯРЫ СЛОВА

*Падбяры такія словы, якія заканчваюцца на слова* **ХОД.**



ЦЕПЛА
. . . .
. . . . . ХОД
. . . .
. . . .

(-арам, -агырк, -ахіц, -ырп)

## 8. СХАВАНЫЯ ІМЁНЫ

*У прыведзеных словах схаваны імёны. Адшукай іх.*

| | |
|---|---|
| МАКСІМУМ | ПРАГАЛІНА |
| МАНДАЛІНА | ТАПОЛЯ |
| РАМАНТЫКА | ВІРАЖ |
| ШАВЯЛЮРА | ЛАВАНДА |
| КАВАЛЕРЫЯ | РАЗЛУКА |
| ГАЛАКТЫКА | ЛІВАН |
| ДАЛІНА | БАРБАРЫС |
| МІЛАН | ТКАНІНА |
| АДАМКНУЦЬ | ЦІТАН |
| СВЕТАПОГЛЯД | МАРЫНАД |

# 9. АДНАВІ СЛОВА

*Дапамажы аднавіць словы, у якіх пераблыталіся літары.*

• У назвах гарадоў:

РЫБКОН, КВАСМА, РЫПАЖ, АВЕН, КСІНМ, ЛЁЎГІМА, ЕЎІК, ШАВАРАВ, ДАНЛОН, ХАБЫЎ.

(ўахыБ, надноЛ, авашраВ, ўеіК, ўёліraМ, ксніМ, анеВ, жыраП, авксаМ, нырбоК)

• У назвах кветак:

ЛЕЯЛІ, ЦЫСРАН, НАПЦЮЛЬ, ТЭМАЗАНХРЫ, КМА, ГІВЯРНЯ, КАЯФІЛ, ЗАБУДНЕКА, ЁЛДЫГЛАСУ.





(сулёыдалг, акдубазен, акляіф, янігряв, кам, амэтназырх, напьлюц, сыцран, яеліл)

• У назвах рыб:

ПАКУШЧ, АСЬКАР, ГОРУВ, МСО, САДУК, КУРПЯЧ, КУАНЬ, КАТОЛП, АСНАЗ, НІЛЬ.

(ьніл, назас, актолп, ьнука, рукчяп, кадус, мос, рогув, ьсарак, капучш)

• У назвах дзён тыдня

ДЗЕЛАКНЯПА, АЎКАТОР, РАСЕДА, ЧАВЕРЦ, ЦАПЯНІТ, ТОБУСА, ЛЯДЗЕНЯ.

(ялездян, атобус, ацінтяп, ревцач, адарес, каротўа, калездянап)



# 10. З КОЖНАЙ ЛІТАРЫ — СЛОВА

*На кожную літару дадзеных слоў прыдумай новае слова.*

Напрыклад:




# 11. ПАБУДУЙ СА СЛОЎ ЛЕСВІЦУ

Напрыклад:











## 12. красворд "Перакрыжаванне"

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | А | | | | | | А |
| 2 | | А | | | | А | |
| 3 | | | А | | А | | |
| 4 | | | | А | | | |
| 5 | | | А | | А | | |
| 6 | | А | | | | А | |
| 7 | А | | | | | | А |





1. Слова, супрацьлеглае нападзенню.
2. Вялікая святочная булка.
3. Дакумент, які сведчыць аб узнагародзе.
4. Цар сярод грыбоў.
5. Тое, што прапала.
6. Від жаночай сукенкі.
7. Паўднёвая частка Зямлі.

(акыткрА — 7, нафарас — 6, ажапарп 5, ківараб — 4, атамарг — 3, йаварак — 2, анораба — 1)

## 13. красворд "Мяккі знак"

1. Музычны інструмент.
2. Верхні паўярус у пакоі.
3. Сорт цвёрдых цукерак.
4. Летні месяц.
5. Узнагарода.
6. Спосаб плавання.
7. Вечар танцаў.
8. Рыба.








(ьзя — 8, ьлаб — 7, ьлорк — 6, ьладем — 5, ьневінж — 4, ьлемарак — 3, ьлосэртна — 2, ьлэчналяів — 1)

# 14. КРЫЖАВАНКА «МАРА ШКОЛЬНІКА»





1. Злакавая расліна.
2. Святочны феерверк.
3. Плод гароху.
4. Ваеннаслужачы.
5. Тамат.
6. Салодкі плод трапічнай расліны.
7. У ім растуць яблыкі, грушы, слівы...
8. Дванаццатая літара алфавіта.
9. Слова па вертыкалі.

(сыр — 1, тюлас — 2, кочуртс — 3, цевоксйав — 4, родімап — 5, нанаб — 6, дас — 7, к — 8, ылукінак — 9)

# 15. ГЕАГРАФІЧНАЯ КРЫЖАВАНКА

*Калі правільна запоўніш клеткі, то прачытаеш па вертыкалі еўрапейскую краіну.*



1. Злучнік.
2. Горад у Беларусі.
3. Рака ў Польшчы.
4. Буйны музычны твор.
5. Сталіца Францыі.
6. Сталіца Італіі.
7. Займеннік.

(А — 1, еўІ — 2, алсіВ — 3, ататнак — 4, жыраП — 5, мыР — 6, я — 7)

# 16. Параўнанні

*Перад табой — параўнанні. Спалучы іх з адпаведнымі словамі, якія размешчаны справа.*

Напрыклад: ХІТРЫ, ЯК ЛІСА

| | |
|---|---|
| УПАРТЫ, ЯК ... | РАК |
| ЗЛЫ, ЯК ... | БІЗУН |
| ДУРНЫ, ЯК ... | САБАКА |
| ГАЛОДНЫ, ЯК ... | ВАРОНА |
| ЧЫРВОНЫ, ЯК ... | АСЁЛ |
| ГОЛЫ, ЯК ... | ВОЎК |
| ГРОЗНЫ, ЯК ... | РЫБА |
| МУДРЫ, ЯК ... | АБУХ |
| МАЎКЛІВЫ, ЯК ... | ЛЕЎ |
| ТУПЫ, ЯК ... | САВА |

## 17. ХТО ШТО ЛЮБІЦЬ?

*Назаві любімы корм пералічаных тут жывёл, птушак і рыб.*

| | |
|---|---|
| МЯДЗВЕДЗЬ | СЫР |
| ЗАЯЦ | ЧАРВЯКІ |
| КОТ | АРЭХІ |
| КАРОВА | ЗЕРНЕ |
| ДЗІКІ КАБАН | МЁД |
| ВАВЁРКА | МОРКВА |
| ВАРОНА | КАПУСТА |
| КАРАСЬ | СМЯТАНА |
| КАЗА | ЖАЛУДЫ |
| ВЕРАБЕЙ | СЕНА |

## 18. ДАПОЎНІ ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

*Падбяры адпаведныя словы справа.*

| | |
|---|---|
| Адзін у полі не ... | салодкі |
| Адклад не ідзе на ... | слоў |
| Ад ляноты чакай ... | мяшку |
| Горкая праца, ды хлеб ... | рукі |
| Добры прыклад лепш за сто ... | ўтоіш |
| Купіў ката ў ... | жыве |
| Майстар на ўсе ... | будзеш |
| Малады верабей, ды ... | воін |
| Праўда вочы ... | нага |
| Сем разоў адмер, а адзін раз ... | лад |
| Трэба як сабаку пятая ... | адрэж |
| Хто хоча, той ... | коле |
| Цішэй едзеш — далей ... | спрытны |
| Чужым розумам ... | бядоты |
| Шыла ў мяшку не ... | можа |



## 19. ПЫТАННІ ДЛЯ КЕМЛІВЫХ

1. Якія займеннікі самыя чыстыя?
   (я — ыт — ым — ыв)
2. Якія займеннікі сапсавалі дарогу?
   (ым — я)
3. Які горад лятае?
   (лорА)
4. Што гарыць без полымя?
   (араз)
5. Які алфавіт складаецца з шасці літар?
   (акубза)
6. Якое імя можа імгненна стаць горадам?
   (ароЛ — Лора)
7. Якое імя можна ператварыць у орган чалавечага цела?
   (акўоВ — аков)

## 20. ЛІЧБЫ Ў СЛОВАХ

*Падкрэслі лічбы ў прыведзеных словах. Прыдумай новыя прыклады.*

| | |
|---|---|
| АДВАГА | СТРЫНОЖЫЦЬ |
| ВІТРЫНА | ПАДВАЛ |
| ГАДЗІННІК | СЕМІНАР |
| СТОЛІК | СТРЫЖЫ |
| ПРЫПЯЦЬ | ТРЫБУНА |
| ЛІСТОК | ГІСТОРЫЯ |

СЯСТРЫЧКА ГЕТРЫ
СЕМАФОР ГЕАМЕТРЫЯ
ЭЛЕКТРЫК АКТРЫСА
СТОЛЬ СТОГ

## 21. ЗАДАННІ ДЛЯ ЎСМЕШКІ

Назаві мелодыю, якую любяць вучні ў канцы ўрока. (конавз)

Чым канчаецца даль? (ь йаратіл)

Якая музычная нота патрэбна для супу? (ьлос)

Без чаго хлеба не бывае? (ікныракс зеб)

Пад якім кустом заяц спіць у дождж? (мырком дап)

Што кусаецца, але не брэша? (авіпарк)

Як назваць сухую траву чатырма літарамі? (анес)

Назаві імёны, якімі можна называць як хлопчыкаў, так і дзяўчынак. (ашаС, янэЖ, ялаВ, авалС)

Назаві словы, у якіх сто зычных. (лотс, готс, нготс, сотс)

Што ўсіх нас робіць людзьмі? (авом)

Ты, я, ды мы з табой. Колькі нас усяго? (еовд)






**Родная мова**

У горадзе,
між ніў жытнёвых,
У важным доме,
сціплай хаце
Не забывайце
роднай мовы —
Для нас навек яна,
як маці.
Каб свет
чароўнай прыгажосцю
Вас ні на момант
не пакінуў,
Шануйце мову
не як госцю,
А як матулю,
гаспадыню.



# Змест



Літаратурна-мастацкае выданне

**ПАЗНЯКОЎ** Міхась (Міхаіл) Паўлавіч

**ГУЛЬНЯСЛОЎ**

Гульні з літарамі і словамі

Рэдактар *Н. М. Касцючэнка*
Мастак *Н. Г. Кійко*
Камп'ютарная вёрстка *В. А. Амельчанка*
Стыльрэдактар *Н. М. Мінзер*

Падпісана ў друк 30.12.2010. Фармат 70x90 1/16. Папера афсетная.
Гарнітура SchoolBook_IS. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 9,36. Ул.-выд. арк. 5,7. Тыраж 1600 экз. Заказ 1020.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва».
ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009.
Вул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск.

Вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП 02330/0494156 ад 03.04.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск.